*Мечыславу Грыбу не дазваляюць пайсці ў адвакаты (стар. 2)*
*«Семейный спор» и «братский пепл». Артыкул Сяргея Дубаўца (стар. 4-5)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 90.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Пятніца, 25 ліпеня 1997 г. № 80 Кошт свабодны

## У нядзелю – свята

У мінулым нумары СВАБОДА паведмляла, што мінскія ўлады дазволілі Народнаму фронту і сацыял-дэмакратам правесці шэсце і мітынг з нагоды Дня незалежнасці 27 ліпеня. Але Мінгарвыканкам раптам даў задні ход

У гарвыканкамаўскім рашэнні, прынятым 21 ліпеня, дэманстрантам дазвалялася рухацца па праспекце Скарыны ад плошчы Я.Коласа ад плошчы Перамогі і далей па набярэжнай Свіслачы да Опернага тэатра. Арганізатары шэсця Мікола Статкевіч і Валянцін Асташынскі пагадзіліся з такім рашэннем, а супрацоўнік УУС г.Мінска падпалкоўнік Дрозд нават выдаў ім дакладны план маршруту шэсця.

Здавалася б улады і апазіцыя знайшлі паразуменне. Але раптам справа набыла нечаканы абарот. У сераду ў гарвыканкаме адбылося паўторнае паседжанне, і ўлады змянілі адзін з пунктаў свайго папярэдняга рашэння, вызначыўшы рух калоны не на праезджай часцы, а толькі па тратуарах. Прычым новая рашэнне было пазначана «заднім чыслом». В.Асташынскі звярнуўся з заявай да пракурора г.Мінска, у якой абвінавачвае гарвыканкамаўскіх чыноўнікаў у парушэнні лукашэнкаўскага дэкрэта № 5 (рашэнне аб масавым мерапрыемстве павінна прымацца не пазней чым за 5 дзён да даты правядзення, а тут прынята да 4 дні), і здзяйсненні службовага падлогу (рашэнне, прынятае 23 ліпеня, пазначанае датай 21 ліпеня).

**Тым не менш дата і час збору ўдзельнікаў маніфестацыі застаюцца нязменнымі — 27 ліпеня ў 14 гадзін на плошчы Якуба Коласа.**

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Напад на актывістаў Грамады

**Прэс-сакратар Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) Павел Карназыцкі быў збіты аўтамабілем. Гэта адбылося сярод белага дня ў Мінску.**

Аўтамабіль, які збіў Карназыцкага на пешаходным пераходзе, адразу ж з'ехаў з месца здарэння. П.Карназыцкі пацярпеў, але застаўся жывы. За апошнія тры месяцы гэта ўжо пятае здарэнне з удзелам актывістаў БСДП (НГ), што дае падставы кіраўніцтву партыі думаць аб магчымасці наўмысных дзеянняў супраць «грамадоўцаў».

Пэўныя падставы для падобных версіяў сапраўды ёсць. Нагадаем, што ў пачатку траўня аналагічны выпадак адбыўся з сустаршынёй магілёўскай абласной арганізацыі БСДП Алесем Сердзюковым. Наезд на яго адбыўся на ўчастку, дзе аўтамабільны рух забаронены. Злачынцу ўдалося затрымаць, вядзецца следства. На месцы здарэння сп.Сердзюкоў страціў прытомнасць, а потым, ужо ў шпіталі, высветлілася, што зніклі ўсе партыйныя дакументы, якія ён нёс у партфелі.

Партыйныя дакументаў зніклі і ў выніку нападу на кватэру Юрыя Захаранкі, намесніка старшыні грамадоўскай арганізацыі ў Гомелі. Невядомыя бандыты праніклі ў кватэру Захаранкі з дапамогай адмысловых прыстасаванняў, як прафесійныя злодзеі, — але ў кватэры паводзілі сябе, быццам агенты тайнага вышуку: каштоўнымі рэчамі не зацікавіліся, затое праверылі ўсе паперы і частку іх прыхапілі з сабой. У чэрвені ж невядомыя напалі і на кіраўніка маладзёвай арганізацыі Грамады ў Гомелі Яўгена Касцюшку. Гэта таксама адбылося сярод белага дня, проста на вуліцы. Невядомыя стрыжаныя хлопцы прыехалі на аўтамабілі — і на ім жа з'ехалі з месца здарэння. Яўген Касцюшка атрымаў шматлікія траўмы.

*«Ва ўсіх гэтых выпадках відаць пэўная сістэма*, — пракаментаваў здарэнні старшыня БСДП (НГ) Мікола Статкевіч. — *У Магілёве і Гомелі ўдзельнікі нападаў больш цікавіліся нашай унутрыпартыйнай дакументацыяй»*. Пэўна, некаму вельмі хочацца «бліжэй пазнаёміцца» са справамі Грамады. Што ж тычыцца нападаў на Касцюшку і Карназыцкага, сп.Статкевіч лічыць, што гэта спроба пакараць і запалохаць маладых палітыкаў, за якімі пацягнуліся равеснікі. «*Не думаю толькі, што такія ўздзеянні сапраўды саб'юць нашых людзей з абранага шляху*», — заяўляе лідэр Народнай Грамады.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Футбол – незалежнасць – свабода

**Перад пачаткам гарачай восені палітычныя партыі вырашылі набраць форму на футбольным полі.**

Заўтра, з нагоды Дня незалежнасці на стадыёне мінскага парка імя Чалюскінцаў адбудзецца таварыскі матч паміж камандамі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пачнецца спаборніцтва ў 10:30, кожная каманда будзе мець 7 ігракоў і аднаго варатара. Мяркуецца, што на поле выйдуць Генадзь Карпенка, Анатоль Лябедзька, Віктар Ганчар і іншыя вядомыя палітыкі. Хто будзе суддзёй, пакуль не вырашылі.

А ў нядзелю, 27 ліпеня, у Гомелі адбудзецца футбольны матч паміж камандамі мясцовых арганізацый БНФ і АГП. Матч пачнецца а 17-й гадзіне на стадыёне школы № 8. Партыі запрашаюць прыхільнікаў футболу і свабоды на стадыёны.

**А.Д.**

## З карэспандэнта ОРТ зрабілі шпіёна

Беларускія памежнікі, а з-за іх і ўсе беларускія ўлады ў чарговы раз селі ў лужыну. І зноў да гэтага спрычыніўся дырэктар Беларускага бюро ОРТ Павел Шарамет, які праз недагляд памежнікаў стаў парушальнікам дзяржаўнай мяжы і рэжыму памежнай зоны.

22 ліпеня Павел Шарамет, а таксама аператар і кіроўца ОРТ былі затрыманыя на памежным пераходзе «Каменны Лог» беларуска-літоўскай мяжы пры спробе зрабіць здымкі. Чатыры гадзіны журналістаў пратрымалі ў памяшканні памежнага пераходу, а потым яшчэ гадзіну — у аддзяленні міліцыі ў Ашмянах. На іх былі складзеныя пратаколы за парушэнне рэжыму памежнай зоны, дзе можна знаходзіцца толькі з дазволу органаў улады і абавязкова з пашпартам. Цяпер парушальнікі рэжыму чакаюць позваў у суд, дзе павінная разглядацца адміністрацыйныя правапарушэнні такога кшталту.

У журналістаў ОРТ былі канфіскаваныя дзве касеты. Праўда, як потым высветлілася, — зусім не тыя, на якіх былі знятыя відэакадры. Канфіскацыю патлумачылі проста: «А у вас есть разрешение на съемку?»

Беларускае бюро ОРТ звярталася з адпаведнай просьбай да памежнікаў. Адказам на яе стала рэзалюцыя камандуючага памежнымі войскамі Аляксандра Паўлоўскага аб магчымасці здымак не раней верасня. Надзеі атрымаць дазвол на месцы скончыліся марна.

Беларускае тэлебачанне пракаментаравала гэты інцыдэнт як жаданне Паўла Шарамета нагадаць пра ўласную персону. Дзіўная пазіцыя. Рэкламу Шарамету зрабілі менавіта беларускія ўлады, аператыўная інфармацыя аб затрыманні групы ОРТ была распаўсюджана памежнымі войскамі па ўсіх афіцыйных інфармацыйных каналах.

Можа, гэткім чынам памежнікі вырашылі прадэманстраваць сваю пільнасьць і крыху рэабілітавацца перад кіраўнікам дзяржавы? Лукашэнка апошнім часам не шкадаваў крытычных выказванняў наконт сітуацыі на межах краіны. І хоць крытыка была ў асноўным на адрас мытнага камітэта, патрабаванні ўзмацнення кантролю на межах прад'яўляліся і памежным войскам.

Калі прыняць гэтую версію, то трэба канстатаваць, што памежнікі пераацанілі свае магчымасці і вартасці. Як вынікае з інфармацыі, што прагучала ў праграме ОРТ «Время», яшчэ да таго, як ахоўнікі мяжы затрымалі здымачную групу на памежным пераходзе, журналісты паспелі бесперашкодна і нечакана для саміх сябе перайсці мяжу з Літвой, заблукаўшы на лясных дарогах. Пры гэтым ім не сустрэўся ніводзін памежнік.

Відавочна: нават тое, што мяжа Беларусі з краінамі Балты ўзмацняецца супольнымі намаганнямі Беларусі і Расіі, не дазваляе паставіць на ёй «жалезную заслону». Відаць, мяжа яшчэ доўгі час будзе празрыстай для кантрабандыстаў ці нелегальных мігрантаў. Дый журналісты будуць мець магчымасьць даць крыўдную пстрычку па самалюбстве ўладаў — проста заблукаўшы на лясных сцежках.

**Ян КАМОЦКІ**



*Аляксандр Лукашэнка ўсміхаецца ўслед Паўлу Шарамету.*

## У Мінск, на з'езд

**Заўтра ў Мінску, у памяшканні Тэатра музычнай камеды збіраецца Другі з'езд беларусаў свету.**

Як паведамілі ў аргкамітэце, з'езд адкрые ўступным словам пісьменнік Васіль Быкаў. На абмеркаванне дэлегатаў старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Ганна Сурмач прапануе даклад «Праблемы захавання беларускай прысутнасці ў свеце». Натуральна, выступяць прадстаўнікі беларускай дыяспары з Захаду і з Усходу.

У нядзелю некаторым дэлегатам пашанцуе: іх прымуць у Гаі наровыя сябры ЗБС. А ўвечары адбудзецца вечарына «Беларуская гаспадыня», дзе можна будзе ўбачыць і, магчыма, пакаштаваць нешта адмысловае.

У панядзелак, у апошні дзень з'езда, госці выйдуць за межы тэатральнай залы — і наведаюць славутыя беларускія мясціны, у прыватнасці, Мір, Навагрудак, Стоўбцы.

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

*Каб сплаціць газавыя даўгі,*

## Лукашэнку засталося чатыры месяцы

Пастаўкі ў Беларусь расійскага газу адноўленыя ў поўным аб'ёме з 19 гадзін 22 ліпеня, а выплата беларускім бокам першай часткі запазычанасці «Газпрому» павінна пачацца ў жніўні.

Такое рашэнне было прынята ў аўторак у Маскве пасля 8-гадзінных перамоваў паміж намеснікам старшыні праўлення «Газпрому» Аляксандрам Пушкіным і беларускай урадавай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам Валерыем Кокаравым. Да пачатку снежня беларускі ўрад павінен пагасіць запазычанасць у 119,9 мільёна долараў і не ствараць новых даўгоў.

Кіраўнік «Газпрома» Рэм Вяхіраў сцвярджае, што абмежаванне паставак газу ў Беларусь ніякім чынам не з'яўляецца сродкам палітычнага ціску на беларускае кіраўніцтва. Проста для здабычы і транспарціроўкі газу патрэбны не толькі словы аб славянскім братэрстве, але і грошы. Дарэчы падобныя санкцыі «Газпром» прымяняе і да расійскіх неплацельшчыкаў. Як адзначаюць многія назіральнікі, газавы манапаліст вырашыў спагнаць пазыкі са сваіх даўжнікоў яшчэ і таму, што нядаўна расійскаму ўраду ўдалося выбіць падатковыя запазычанасці з самога «Газпрома».

Іншай думкі прытрымліваецца Лукашэнка. Выступаючы ў аўторак перад рабочымі мінскага авіярамонтранага завода, ён заявіў, што скарачэнне паставак газу тлумачыцца ціскам на «Газпром» з боку палітычных праціўнікаў Лукашэнкі ў крамлёўскім кіраўніцтве. Рыгоравіч, відаць, гаварыў пра Нямцова, Чубайса і Чарнамырдзіна. Дарэчы, гэтую заяву Лукашэнкі былі вымушаны фактычна дэзавуіраваць прадстаўнікі пасольства Беларусі ў Маскве, якія заявілі карэспандэнту «Известий», што яны не разглядаюць абмежаванне паставак газу як праяву з боку Расіі «несяброўскіх пачуццяў» да Беларусі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Трагедыя ў Барысаве

**Маці двух дзяўчынак, якіх знайшлі мёртвымі ў рацэ Сха, павесілася ў Барысаве.**

Цела трыццацішасцігадовай З.Карлец, якая дагэтуль працавала кухаркай у вайсковай частцы № 42760, было знойдзена ўвечары ў мінулы аўторак. Жанчына звяла рахункі з жыццём, павесіўшыся на дрэве. А за некалькі гадзінаў да гэтага з ракі Сха, якая упадае ў Бярэзіну, былі выцягнуты целы двух дачок Зінаіды Карлец — пяцігадовай Вікторыі і васьмігадовай Анастасіі. Як адзначаецца ў пратаколе міліцыі, слядоў насілля на целах не знойдзена.

Следства адпрацоўвае адразу некалькі версіяў. Па адной з іх, жанчына, якая не мела свайго жылля, не вытрымала жыццёвых цяжкасцяў і павесілася, папярэдне ўтапіўшы сваіх дзяцей. Аднак не выключана, што дзеці патанулі ў выніку няшчаснага здарэння і самазабойства маці стала рэакцыяй на гэту трагедыю.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Мечыславу Грыбу не дазваляюць паисці ў адвакаты

*Міністэрства юстыцыі прыпыніла дзеянне таго, чаго не выдавала*



*Мечыславу Грыбу застаецца толькі развесці рукамі.*

Нядаўна некаторыя сродкі масавай інфармацыі паведамлялі, што былы спікер беларускага парламента Мечыслаў Грыб атрымаў ліцэнзію на права займацца адвакацкай дзейнасцю. Аднак шаноўнаму генералу Грыбу пакуль не ўдасца стаць цывільным юрыстам. Прэс-служба міністэрства юстыцыі выдала з гэтай нагоды тлумачэнне. Дакументу нададзены афіцыйны нумар 05-22-10, аднак тэкст пазбаўлены ўнутранай логікі: *«выдача лицензии Грибу М.И. не производилась, а в соответствии с приказом МЮ № 75 от 7 июля 1997 г. приостановлена»*. Што менавіта прыпыняе міністэрства юстыцыі, зразумець цяжка, але прычына нелюбові мінюста да генерала ў дакуменце сфармуляваная выразна: аказваецца, 15 сакавіка М.Грыб учыніў *«административный проступок»*. Нагадаем, што 15 сакавіка М.Грыб быў адным з арганізатараў святкавання Дня Канстытуцыі — за што атрымаў паводле прэзідэнцкага дэкрэта № 5 штраф на поўную катушку — 22 мільёны рублёў. Так што аплаціць штраф з адвакацкіх ганарараў Мечыславу Грыбу пакуль не ўдасца.

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

# Дзень незалежнасці – наша нацыянальнае свята

*Зварот старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага да беларускага народа*



Паважаныя суайчыннікі!

27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прыняў «Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі». Дзяржаўны суверэнітэт сцвярджаўся ў імя вышэйшай мэты — свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязацельствамі.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная прававая дзяржава, якая валодае вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку.

На працягу стагоддзяў беларусы імкнуліся да незалежнасці. Першым дзяржаўным утварэннем на тэрыторыі ўсходнеславянскіх земляў было Полацкае княства, якое ўзнікла ў канцы першага тысячагоддзя і захоўвала сваю незалежнасць на працягу стагоддзяў. Вядомым у гісторыі было і Тураўска-Пінскае княства.

Літва, княства Наваградскае, княства Літоўскае і Наваградскае, Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае — пад такімі назвамі была вядомая ў гісторыі нашая краіна, якая шукала шляхі мірнага суіснавання ды супрацоўніцтва розных народаў і царкоўна-рэлігійных сістэм, ва ўмовах сярэднявечча стварыла ўнікальны ўзор палітычнага і грамадскага ладу.

Але выгаднае геапалітычнае становішча Беларусі, якое прываблівала яе суседзяў, прыводзіла да таго, што Беларусь была «разменнай манетай» у імперскіх амбіцыях суседніх дзяржаваў, якія змагаліся паміж сабой за валоданне яе тэрыторыяй.

Новы этап набыцця Беларуссю сваёй незалежнасці адносіцца да пачатку XX стагоддзя, калі 25 сакавіка 1918 года Рада БНР зрабіла спробу адрадзіць беларускую дзяржаўнасць, якая ў тагачасных складаных унутраных і знешніх варунках так і не была рэалізаваная. Абвяшчэнне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі аказала істотны ўплыў на развіццё нацыянальнай самасвядомасці.

27 ліпеня 1990 года была абвешчаная незалежнасць Рэспублікі Беларусь, але сёння ў чарговы раз незалежнасць Беларусі апынулася пад пагрозай.

Прэзідэнт у выніку падмены паняццяў і фальсіфікацыі рэферэндуму дзеля задавальнення сваіх амбіцый абвясціў «дзяржаўнае свята» — Дзень Рэспублікі. Прычым ім стаў дзень вызвалення Мінска ад фашысцкіх захопнікаў — 3 ліпеня. Такім чынам зніклі адразу дзве істотныя ў гісторыі даты: Дзень незалежнасці і Дзень вызвалення Беларусі ад фашызму. Такім чынам прэзідэнт і ягоныя паплечнікі нанеслі вялікую крыўду франтавікам — вызваліцелям нашай краіны і яе сталіцы, для якіх гэты дзень — святы.

Знішчэнне Дня незалежнасці — гэта толькі адзін са шматлікіх крокаў прэзідэнта да ліквідацыі незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь як дзяржавы. Але ў жыцці беларусаў быў і застаецца дзень 27 ліпеня 1990 года! Гэта важная старонка ў нашай гісторыі. Калі мы хочам «людзьмі звацца» і хочам, каб нас паважалі іншыя, мы павінны паважаць сябе, сваю гісторыю.

Таму я заклікаю суайчыннікаў: дзе б вы ні былі 27 ліпеня, памятайце, што гэты дзень — наша нацыянальнае свята. Адзначаць яго ці не — справа асабістая, але памятаць яго і адстойваць Беларусь як свой родны дом павінен кожны яе грамадзянін.

Жыве вольная незалежная Беларусь і яе народ!

*Сёння — Дзень пажарнай службы*

# Тэлефон «01» працуе заўсёды

**25 ліпеня пажарная служба Беларусі, якая налічвае каля 18 тысяч чалавек, адзначае прафесійнае свята.**

**Заўтра ў Мінску ў 11 гадзін пачнуцца народныя гулянні, на якіх пажарныя прадэманструюць сваё майстэрства.**

Падпальваць, вядома, нічога не будуць, але ў гарадскім парку імя Горкага, на рацэ Свіслач, можна будзе пабачыць вадзяныя завесы і нават спецтэхніку для рэзкі дзвярэй і гаражных варотаў. Арганізатары свята ўлічылі трагічны вопыт Латвіі, дзе падчас падобнага святкавання загінула 8 дзяцей і адмовіліся ад усялякіх небяспечных атракцыёнаў, хоць летась мінскія пажарныя дазвалялі дзецям пакарыстацца нямецкай лесвіцай, выратавальнай панчохай і пад'ёмнікам.

Прэзідэнт Лукашэнка на гэтае свята пакуль не збіраецца, затое пажарныя абяцаюць, што «прыляціць» нейкі Змей Гарыныч, які замест агню будзе выкідваць пену для тушэння.

Натуральна нават у свята пажарныя не пакінуць свайго дзяжурства і можна ўпэўнена набіраць тэлефон «01», але будзем спадзявацца, што такой патрэбы не будзе. Па звестках на 24 ліпеня,з пачатку года ў нашай краіне адбылося 7.940 пажараў, што на 16 працэнтаў менш, чым у адпаведны перыяд мінулага года. Магчыма, ад частых сёлетніх дажджоў будынкі моцна адсырэлі.

Найчасцей пахне дымам у Мінскай і Магілёўскай абласцях. Аднак 44,5% выездаў пажарных камандаў у нашай краіне звязана не з пажарамі, а з надзвычайнымі сітуацыямі. Пажарныя дапамагаюць пры дарожна-транспартных здарэннях і тэхнічных непаладках. Спецтэхніку даводзіцца выкарыстоўваць нават для «ліквідацыі» з высокіх кропак бел-чырвона-белых сцягоў, якія развешалі ў Мінску падчас акцыі «Горад — наш!». Пажарныя, аднак, сцвярджаюць, што «палітыкай не займаюцца» і ім «усё роўна каму дапамагаць».

*Бывае, што да агню дабрацца няпроста.*



Начальнік галоўнай управы ваенізаванай пажарнай службы Беларусі, генерал-маёр Валерый Астапаў сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што цяпер выпрабоўваецца новая тэхналогія змагання з агнём. Ёсць тры аўтамабілі хуткага рэагавання, устаноўкі імпульснага пажаратушэння. Спецыяльнай пажарнай тэхнікай будуць «узбройваць» аўтамабілі на віцебскім тэлевізійным заводзе «Віцязь».

У вялікай колькасці пажараў вінаватыя ў першую чаргу няспраўныя энергапрыборы, якія ёсць у кожнай сям'і. Небяспечныя гульні дзяцей з запалкамі, сказаў генерал Астапаў, адыходзяць ў мінулае, бо «дзеці цяпер гуляюць з кампутарамі». А ўвогуле з пачатку года ў агні загінула 400 чалавек, сярод іх і дзеці. Гэта вельмі высокая лічба.

Генерал-маёр Валерый Астапаў лічыць, што *«неабходна павышаць узровень пажарнай свядомасці»*. Добра было б займець у кожным горадзе і райцэнтры добраахвотныя пажарныя брыгады, прычым сапраўдныя, а не папяровыя. *«Але ў нас пры нізкіх зарплатах проста так цяпер ніхто нават пальцам не пашавеліць»*, — кажа В.Астапаў. Асноўная надзея ў жыхароў Беларусі на прафесіяналаў-пажарных.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Узлёт тэатра, які могуць спыніць

Учора тэатр «Вольная сцэна» прэзентаваў у Мінску сваю новую задуму — спектакль «Узлёт Артура Уі, які можна было спыніць» паводле Бертальда Брэхта.

Галоўным ацэншчыкам быў начальнік аддзела міністэрства культуры В.Дапкюнас. Ён пасля прагляду сказаў, што *«спектакль сыры, трэба яшчэ яго распрацоўваць. Няма сакавітых характараў»*.

А па-мойму, характары вельмі сакавітыя. У гэтым трагіфарсе распавядаецца пра чалавека з нізоў, Артура Уі, які сродкамі насілля, гвалту і тэрору, папулізму пнецца да ўлады і ўрэшце яе атрымлівае.

Лозунг Артура Уі просты і адназначны: «Ратунак наш — жалезная рука».

Валерый Мазынскі, кіраўнік тэатра, акрэсліў ідэю спектакля: *«Мы мастацкімі сродкамі паказваем абагульнены вобраз чалавека-дыктатара. Народ павінен думаць, каго выбірае»*.

За ўчынкамі героя ўгадваюцца чорныя палітычныя асобы нашага стагоддзя — Ленін, Сталін, Гітлер... І спіс можна доўжыць.

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

# Бельгійскага вадзіцеля будуць абследаваць медыкі

Ужо тры тыдні ў следчым ізалятары Брэста знаходзіцца 57-гадовы грамадзянін Бельгіі Вілі Золі (па пашпарце ён Villi Sollie) — вадзіцель таго самага аўтобуса, які 1 ліпеня перавярнуўся пад Кобрынам, у выніку чаго чацвёра дзяцей загінулі.

Бельгійца абвінавачваюць у парушэнні правілаў бяспекі руху, што прывяло да гібелі людзей.

Цяпер стан здароўя кіроўцы аўтобуса, які вёз чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне ў Бельгію, даследуюць медыцынскія эксперты, яны павінны даць заключэнне, ці можна падследнага ўтрымліваць пад вартай. Рэч у тым, што В.Золі доўгі час працаваў на прадпрыемствах хімічнай прамысловасці, у выніку чаго набыў прафесійныя захворванні. Аднак, па словах следчага брэсцкага абласнога УУС Міхаіла Баравіка, нават калі вадзіцеля выпусцяць з-пад варты, то толькі пад падпіску аб нявыездзе. В.Золі не мае права пакінуць тэрыторыю Беларусі.

Для высвятлення ўсіх акалічнасцяў трагедыі і віны падследнага прызначана яшчэ 5 розных экспертыз, што зойме не менш як 2 месяцы, і толькі пасля гэтага справа трапіць у суд, паведаміў следчы.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Прафсаюзам не даюць сабрацца ў Кангрэс

**Беларускі Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў не змог адстаяць свае правы ў судзе.**

Тры дні ў Вярхоўным Судзе цягнуўся разгляд скаргі Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў супраць міністэрства юстыцыі, якое адмаўляецца рэгістраваць гэтую арганізацыю. Прадстаўнік міністэрства юстыцыі Міхаіл Сухінін сцвярджаў, што Кангрэс можа быць зарэгістраваны толькі пасля таго, як з шэрагу яго сузаснавальнікаў будзе выключаны Свабодны прафсаюз Беларусі, дзейнасць якога была прыпыненая дэкрэтам Лукашэнкі ў 1995 г. Аднак той жа мінюст перарэгістраваў прафсаюз у лютым 1996 г., на што і ўказаў сп.Сукініну суддзя Мікалай Бабкоў. Здавалася б, пытанне высветленае.

Але раптам пракурор Бортнік ўгледзеў парушэнне заканадаўства зусім у іншай галіне. Аказваецца, іншыя сузаснавальнікі Кангрэса, свабодныя прафсаюзы транспартнікаў і метлістаў, прынялі рашэнне аб уваходжанні ў новую арганізацыю не на сваіх з'ездах, што, на думку пракурора, з'яўляецца парушэннем заканадаўства. На гэтай падставе суддзя М.Бабкоў і адмовіў Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў у задавальненні скаргі.

Старшыня Кангрэса Генадзь Быкаў лічыць, што ў такім фінале справы адбілася імкненне ўладаў любым чынам недапусціць рэгістрацыі арганізацыі. Кіраўніцтва Кангрэса збіраецца звярнуцца з адпаведнымі зваротамі ў Міжнародную канфедэрацыю свабодных прафсаюзаў, Сусветную арганізацыю працы, у іншыя міжнародныя арганізацыі, каб праінфармаваць сваіх замежных партнёраў аб чарговым парушэнні ўладамі правоў беларускіх прафсаюзаў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Боты ёсць. Ці будуць грошы?

Учора ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы ў Мінску сабраліся шаўцы, гандляры і, вядома, журналісты. Гаварылі пра дзіцячы абутак.

У гэтым навучальным годзе ў школах нашай краіны будзе каля 1,5 млн. навучэнцаў, у тым ліку каля 150 тыс. першакласнікаў. Ці хопіць ім таннага і якаснага абутку? Прадстаўнікі прадпрыемстваў, што вырабляюць дзіцячы абутак, паспрабавалі даць адказ на гэтае пытанне.

Было адзначана, што самы пік попыту на дзіцячае адзенне, абутак і школьныя прылады прыпадае на канец жніўня, калі бацькі адразу набываюць усё неабходнае. Таму прадпрыемствы загадзя рыхтуюцца да таго часу.

Сумеснае беларуска-славенскае прадпрыемства «Чаўляр» у Мінску за першае паўгоддзе 1997 выпрабіла 279 тыс. пар дзіцячага абутку, Магілёўская абутковая фабрыка 322 тыс. пар, а канцэрн «Беллегпрам» — больш за 2 млн. пар. Такім чынам, чаравікаў нашылі значна больш, чым ёсць школьнікаў. Але галоўная праблема — беднасць беларусаў. Няма ніякай гарантыі, што людзі змогуць той абутак купіць. Самая танная пара школьнага абутку, як паведамілі вытворцы, усё роўна каштуе нямала —250—300 тыс. рублёў.

А найлепшая аказія купіць абутак для дзяцей на кірмашы «Дзень добры, школа!», якія будуць праходзіць 23—30 жніўня па ўсёй Беларусі. Вядома, калі ў бацькоў будут грошы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Жыцці нашых сыноў пад пагрозай

Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што беларускія вайскоўцы будуць праходзіць службу толькі ў Беларусі. Але зусім нядаўна старшыня дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі А.Паўлоўскі пацвердзіў, што ўжо ў бліжэйшай будучыні беларускія пагранічнікі могуць праходзіць службу пры ахове і расійскіх межаў, — пра гэта паведамляла прэса.

Але ж у нашай дзяржаве ніхто нічога проста так, без ведама «бацькі» не скажа. Выходзіць, прыйшоў час Лукашэнку плаціць Расіі за тую падтрымку, якую яна аказвае яго рэжыму, не чым-небудзь, а чалавечымі жыццямі. Так што рыхтуй, народ, сваіх сыноў і ўнукаў для аховы «священных рубежей». А расійская мяжа — гэта заўсёды небяспека смерці: на Курылах, Паўночным Каўказе, кітайскай граніцы — усюды.

Калі мы змаўчым і на гэты раз, саюз Беларусі і Расіі можа каштаваць нам залішне дорага.

**Ю.ШЫБІЦКІ,**
*г.Нясвіж*

**21 ліпеня на 47-м годзе жыцця памёр былы кіраўнік Крычаўскай суполкі БНФ Валерый Судзілоўскі.**

**Сябры і калегі выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# Служить, но не прислуживать

Не секрет, что одним из побудительных моментов для поступления в вузы для молодых парней является возможность избежать военной службы (или, по крайней мере, получить отсрочку). Я не уверен, поступлю ли в избранный мною вуз, может, придется надеть форму. В армию не хочу по многим причинам, но...

Специфика современного этапа в Беларуси такова, что использование армии для ведения войны не предполагается. В то же время силовые структуры заставляют прислуживать режиму во внутренних целях — в качестве инструмента для оказания давления на общество и попрания гражданских свобод. Принимая это во внимание, сторонникам альтернативной службы и пацифистам следовало бы на время отложить свои требования. Необходимость в нынешней ситуации ослабить силовой шантаж против оппозиции и запугивание народа требует увеличения в кадровом составе — будь то армия или силы МВД — военнослужащих, осознающих национальные интересы как свои собственные. Тогда власти не смогут решиться по соображениям политической целесообразности отдавать преступные приказы.

Эти мысли напрашиваются сами собой, когда видишь, как режим использует грубую силу против мирных демонстрантов. Угроза пустить в ход оружие продолжает открыто декларироваться на самом высоком уровне даже для защиты западных инвесторов (вспомним недавний телемост Беларусь—Швейцария), хотя для них важнее не оружие, а стабильная разумность законов государства и правил рынка. Власти накаляют ситуацию противостояния в обществе. В складывающейся обстановке оппозиционно настроенная молодежь не должна соблазнять режим своей беззащитностью, а быть готовой к эффективной обороне своих гражданских прав.

Конечно, можно предположить, что призывные комиссии получат инструкции не допускать в армию политическую оппозицию, но истинные политические убеждения не столь очевидны, как хромота или плоскостопие.

**И.АРСЕНЬЕВИЧ,**
*г.Минск*

# Я пострадала за ботинки

Уважаемая редакция!

Я зарегистрирована частным предпринимателем во Фрунзенском исполкоме г.Минска, торговала на стадионе «Динамо». Я по образованию инженер-программист, и на рынок пошла не от хорошей жизни: у меня двое маленьких детей — пяти и шести лет. Но из-за конфликта с налоговой инспекцией, я осталась фактически без средств к существованию.

30 мая в конце дня ко мне подошли работники Партизанской налоговой инспекции. Оказывается, я совершила преступление: потратила из выручки 95 тысяч рублей на покупку ботинок моему ребенку. Мне заявили, что это — «сокрытие дохода». Но это был расход, из которого я не делала никакой тайны! Ситуация глупая и безвыходная: если следовать логике налоговых инспекторов, мне за весь день на рынке с утра до вечера нельзя даже поесть, я не имею права купить что-либо себе и своим детям. Принесешь собственные деньги из дому — скажут, что лишние, неучтенный доход. Потратишь из выручки — почему недостает?

Кроме того, оказалось, что мои документы оформлены ненадлежащим образом, и в принципе, формально, это нарушение — за него полагается штраф от двух до пяти минимальных зарплат. Но меня обвинили в том, что моя тетрадь предпринимателя вообще не зарегистрирована в налоговой инспекции, а это уже грозит конфискацией товара.

Я долго ходила по разным инстанциям — налоговые инспекции, межрайонный отдел налоговых расследований, милиция... И везде у чиновников, инспекторов была явная презумпция моей виновности. Со мной не хотели разговаривать, не показывали мне документы. Я знаю, что согласно закону правда на моей стороне. Но — прошло полтора месяца с тех пор, как товар мой арестован, и я не могу торговать, испытываю большие материальные трудности.

А ведь для того, чтобы сдвинуть дело с мертвой точки, необходимо лишь чтобы в налоговой инспекции придерживались буквы закона. Неужели это так трудно?

**Антонина БУДАНИЦКАЯ,**
*г.Минск*

**ОБРАЩЕНИЕ**

# Построим памятник вместе

Бобруйское отделение Белорусской ассоциации жертв политических репрессий в настоящее время насчитывает около двух тысяч членов: это сами репрессированные, испытавшие на себе все муки ада ГУЛАГа, чудом выжившие; вдовы расстрелянных и замученных, не знающие могил своих мужей; седовласые дети «врагов народа», выросшие в местах лишения свободы, лагерях и детдомах, с отнятым детством, юностью, добрым именем.

Бабруйская организация жертв политических репрессий проводит большую работу по восстановлению справедливости, гражданских прав жертв тоталитарного режима. Наша организация строит в г.Бобруйске памятник жертвам политических репрессий. Просим всех, кто пострадал сам, кто сочувствует прошедшим ад сталинских репрессий, кто неравнодушен к страданию других, оказать посильную помощь в сборе средств на завершение работ по возведению памятника.

Наш р/с *№ 3015205540014 в Бобрйском отделении Белбизнесбанка, код 721* (с пометкой «на строительство памятника»).

Телефон для связи *(02251) 6-89-95.*

**А.БАКАЧ,**
*председатель Бобруйского отделения Белорусской ассоциации жертв политических репрессий*

# И имя нам – легион

Уважаемая газета СВАБОДА!

В недалеком прошлом семья моя жила не так уж и плохо. Хотя автомобиля, дорогостоящих гарнитуров и бытовой техники не имела, но по возможности была сыта, обута и одета. Имел возможность проявлять гражданскую активность и вносить неоднократно денежные средства в фонд Мира, за что награждался Почетными грамотами и записью в трудовой книжке. Но в последнее время одна головная боль: как свести концы с концами? Два последних года сидим дома, хотя числится, что якобы работаем. Зарплату нам не начисляют, и денег совершенно нет.

Сколько можно терпеть? Находятся огромнейшие средства устраивать и проводить пышные, показушные праздники, фестивали, конкурсы, всебелорусские собрания, референдумы. Но нет средств на улучшение жизни народа. Я был послушным и исполнительным гражданином общества, но оказался заложником, жертвой системы, никому не нужным и выброшенным на помойку, как поганый кот. И я не один, имя нам — легион. Но моя страна, мой народ, перенесший на этом веку не один удар судьбы, поднимется и перестанет расплачиваться за бездарные ошибки руководителей. Расплачиваться придется им самим.

**Василий ПЛАШКОВ,**
*г.Гомель*

# Отлучение школы от государства

*Сценарий документального фильма*

Время действия — лето 1997 года.

Место действия — г.Минск. На экране слева — школа № 41 (специализация — белорусские художественные ремесла). Справа — Белорусский гуманитарный лицей.

До начала действия и справа, и слева все заняты одним и тем же: ученики — кто гуляет, кто сдает экзамены. Учителя уходят в отпуска.

20 июня, слева. Начальник милиции Минска обращается к мэру города с предложением расформировать школу №41, а ее здание передать им. В школе никто ничего не знает, все спокойно.

23 июня, слева. Мэр города просит министра образования к 8 июля изучить вопрос и, по возможности, дать добро на закрытие школы. В школе все спокойно, идет ремонт. Справа, в лицее — тоже.

26 июня, слева. Директор школы узнает о ее возможном закрытии. Ученики танцуют на выпускном балу.

27—30 июня, слева. Поползли слухи, родители начинают беспокоиться. Справа по-прежнему спокойно.

1 июля, слева. Родители учеников на собрании просят директора школы прояснить ситуацию. Директор сообщает все, что ему известно. Что будет после закрытия школы, куда деваться ученикам, он не знает. Родители пишут письма мэру, министру и президенту.

В этот же день, справа. Президент отдает распоряжение передать УЕДу — Управлению Его Делами — 22 здания города. В их числе — и лицей. Куда деться лицею — в распоряжении не сказано. В лицее о распоряжении не знают, там идет ремонт.

7 июля, слева. Завтра министр должен дать ответ мэру. Родители и ученики пикетируют здание УВД, начальнику которого понравилась их школа. Милиция вежливо, но твердо просит разойтись, предупреждает, что применит силу, снимает пикет тремя видеокамерами. Справа — по-прежнему все спокойно.

8—10 июля, слева. Независимые газеты пишут о протесте родителей. Государственная пресса молчит.

11 июля, слева. Родители на приеме у министра. Он уверяет их, что сделает все, чтобы не закрывать школу.

12 июля, справа. До лицея дошли слухи об их выселении. Собрание родителей срочно пишет письмо президенту.

В этот же день, слева. Городское управление образования подает родителям письмо, что вопрос решен в пользу школы и что их дети будут продолжать там учиться и в последующие годы. На словах родителей пожурили, что зря они подняли шум.

14—16 июля, справа. Пикеты у здания лицея. Различные представители власти успокаивают людей, но никто ничего конкретного сказать не может. УЕД — требует ему отписанное указом.

В это же время, слева. Не объясняя причины, управление образования срочно потребовало от школы список всех учеников и учителей с их адресами. Интересно, зачем, если школу не будут расформировывать?

17 июля, справа. Милиция с помощью каких-то стриженых молодчиков в спортивных костюмах, применяющих грубую силу, наводит порядок около лицея. Четверым арестованным судья выносит предупреждение.

21 июля, справа. На встрече с представителем министерства как бы вскользь замечается, что лицей, может быть, переедет в здание средней школы №41.

*Продолжение должно последовать*

**Петр НИКОЛАЙЧИК**

# «Семейный спор» и

## *Почему администрация президента запретила книгу рассказов по истории Беларуси*

Сергей ДУБАВЕЦ



В «послужном списке» администрации Лукашенко не только экономическая стагнация, политическая неразбериха, создание примитивной модели власти; не только запрещенные средства информации, репрессированные политики и журналисты; не только арестованные деятели культуры, закрытые национальные школы, оскорбительные выпады в адрес белорусского языка и так далее. В этом списке — книги. Причем книги лучших белорусских авторов. СВАБОДА уже писала о запрещении нового сборника прозы Василя Быкова. Сегодня речь пойдет о книге Владимира Орлова «Адкуль наш род».

«Рассказы по истории Беларуси для младших школьников» — таков подзаголовок этого красочного, иллюстрированного издания. Автор — Владимир Орлов — сорокалетний писатель и историк, издавший уже десяток популярных книг о нашем прошлом, получивших признание у читателей. Он хорошо знает свой предмет, любит свою страну и умеет передать чувство гордости за нее детям. Книга «Адкуль наш род» — суммирует знания о белорусской истории в простые, понятные детям образы выдающихся людей и событий. Неброское название книги обретает особый смысл, когда читаешь об обычаях наших далеких предков, еще язычников. Например, *«сапраўдны мужчына мусіў абавязкова ведаць, кім былі ягоныя дзяды, прадзеды і прапрадзеды. Таго, хто не ведаў, часам нават выганялі з сялібы, бо лічылася, што такі бяспамятны чалавек лёгка можа зрабіцца здраднікам».*

И еще: *«Галоўны бог меў некалькі імёнаў, але найчасцей яго называлі Род. Ён гаспадарыў на зямлі і ў небе, кіраваў вятрамі і рухам сонца і зорак. З імем гэтага старажытнага бога ў нашай мове звязана шмат вельмі важных слоў: радзіма, народ, родзіч, продак, нараджэнне, прырода, ураджай, адраджэнне...»*

Так постепенно автор начинает восстанавливать разрушенное советскими идеологическими стереотипами представление о древней белорусской истории. В соответствии с этими стереотипами история белорусов началась в 1917 году. Точнее, всё в нашей истории, чем могли бы гордиться мы и наши дети, началось именно тогда. Революция, пятилетки, ЧК, партизанское движение, послевоенное восстановление народного хозяйства... А до того, до 17-го года — тысячелетнее безвременье, угнетение, лапти, колтун, болото, нищета (в том числе, подразумевается, — и духовная). Пишется, конечно, что-то о Рогнеде, Скорине, Гусовском, Калиновском... Но это все как бы из сферы специальных знаний. Вот мы все слушаем радио, а о природе радиоволн осведомлены лишь специалисты. Остальным это знать необязательно...

Владимир Орлов рассказывает о «тысячелетнем безвремении» ярко и концептуально. Как прозаик — он оживляет минувшие эпохи, передает суть происходящего так, чтобы эта суть была понятна детям. Владея огромным фактическим материалом, он избавлен от потребности что-либо искажать, умалчивать или подтасовывать. Ведь его задача — воспитать любовь. А воспитать любовь можно только «своими словами», то есть — субъективно и искренне. В.Орлов справляется с этой задачей. В результате мы получаем лучшую на сегодня книгу по истории Беларуси для детей. Кроме этого, книга вносит свою лепту в создание национальной идеологии независимого Белорусского государства.

Но вот подымает голову воскресший при Лукашенко советский идеологический стереотип. О какой, мол, любви и гордости можно говорить до 17-го года?!

### «Мертвый хватает живого»

Сначала в «Настаўніцкай газеце» появляется официальная заметка под названием «У Міністэрстве адукацыі»: «У апошні час у рэспубліцы рознымі выдавецтвамі выпускаюцца кнігі, якія не праходзілі экспертызу ў Міністэрстве адукацыі... Асобныя з гэтых выданняў не адпавядаюць мэтам школьнай гістарычнай адукацыі».

Готов поспорить, что в упомянутом министерстве нет ни одного специалиста по истории Беларуси, способного полемизировать с Орловым. Не зря ведь в заметке содержится ничем не подкрепленный приговор: «не адпавядаюць мэтам». Более того, убежден, что все министерство вместе взятое не способно внятно сформулировать эти самые «мэты» касательно старой белорусской истории. Ну, да Бог с ними. Их задача — дать наводку.

Далее в игру вступает печально известный полковник Заметалин. Он пишет другому крупному администратору и патриоту власти социологу Е.Бабосову следующее письмо: «Просим рассмотреть названную книгу и дать заключение по вопросам искажения исторических фактов, тенденциозности, разжигания национальной розни и межконфессиональных конфликтов, неприятия современной государственной символики Республики Беларусь в содержании книги для принятия решения о правомерности распространения данного издания в книготорговой сети и в школах республики».

Сам этот документ — пример тенденциозности и юридической некорректности. Полковник не знает презумпции невиновности. Он спрашивает, отвечая: как вы думаете, это плохая книга? Конечно, вторит ему Бабосов, очень плохая...

Вот строки из ответа Бабосова. «Основное содержание книги чрезмерно политизировано и идеологизировано с субъективистски-предвзятых, враждебных России и русскому народу позиций. В книге нет и намека на то, что политика царизма и интересы русского народа совпадали отнюдь не всегда. Русские почти во всех разделах книги характеризуются как темные, неграмотные люди, а в отношении к белорусам как враги, захватчики, изуверы. Делая чрезмерные, ничем не обоснованные обобщения, автор пишет: «В Российском государстве всегда умели *из черного делать белое*».

Мы еще вернемся к этой цитате — единственной в экспертном заключении Бабосова. Все остальные обобщения эксперта не подкреплены ни цитатами, ни обратными доказательствами, поэтому действительно, говоря его словами, «необоснованны». В отличие, кстати, от книги Орлова, где каждый вывод делается из совокупности фактов. Но вернемся к заключению эксперта: «Еще более русофобскими являются неоднократно встречающиеся в тексте книги утверждения автора о том, что во время завоевательных походов на белорусские земли русские войска были более жестокими и кровожадными (такого слова в книге Орлова вообще нет. — ***С.Д.***), чем немецкие рыцари, татарские и шведские завоеватели. Если поверить автору, то во всех перечисленных в книге битвах, включая Грюнвальдскую и Куликовскую, решающую роль в разгроме противника сыграли белорусские полки, что не соответствует действительности (! — ***С.Д.***). Весьма спорной является и характеристика Великого княжества Литовского как исключительно белорусского государства». Вывод — запретить.

Наверное, вполне корректно было бы господину Заметалину, в то время еще председателю Госкомпечати, спросить у ответственного за школьные учебники Бабосова его мнение о книге, о ее воспитательном значении — и получить от эксперта ответ, в котором бы тот оспаривал выводы Орлова, противопоставляя его фактам свои. Но, очевидно, и академик Бабосов не настолько осведомлен в белорусской истории, чтобы оперировать фактами. Его сфера деятельности — с глубоких советских времен — администрирование, идеологическое обеспечение — тогда ЦК, а теперь администрации президента.

Примечательно, что в документах обоих властных кураторов школьного образования и детской литературы встречаются грамматические ошибки и описки. Но речь не об этом. И не о том даже, чтобы полемизировать с голословными утверждениями полковника и академика. Интересен побудительный мотив всей этой истории, рожденный в сфере белорусско-русских межнациональных взаимоотношений. Этот мотив — центральный в российской имперской, а позже и советской историографии — давно требует внимательного рассмотрения.

Особенную живость проблеме придает то, что оба куратора — россияне, приехавшие кто раньше, кто позже в Беларусь. Видимо, будь они поляками, их внимание привлекла бы фраза Орлова *«Палякі хацелі стаць гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і на нашых землях».* Да и для татар, шведов или представителей других национальностей, вдруг поставленных курировать белорусскую школу, нашлись бы в старой белорусской истории свои «неприятные моменты». Но наши полковник с академиком из России, и стоят они на страже исключительно российских интересов.



Директору института социологии АНБ, председателю подкомиссии Государственной комиссии по подготовке новых учебников в гуманитарно-обществоведческой сфере академику Е.М.Бабосову

О книге В.Орлова "Адкуль наш род"

Уважаемый Евгений Михайлович!

Негосударственное предприятие Издательский центр "Бацькаўшчына", не имея лицензии на издательскую деятельность, подготовил и выпустил книгу В.Орлова "Адкуль над род. Апавяданні па гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў".

Просим рассмотреть названную книгу и дать заключение по вопросам искажения исторических фактов, тенденциозности, разжигания национальной розни и межконфессиональных конфликтов, неприятия современной государственной символики Республики Беларусь в содержании книги для принятия решения о правомерности распространения данного издания в книготорговой сети и в школах республики.

Председатель В.П.Заметалин

### Опять «обидели» Россию

Историки знают, сколько старателей на окраинах великой империи испокон века «охраняли» великие интересы и тогда сами — ничтожные, маленькие — становились вроде как побольше. Господа, — просили они при случае, — передайте, что есть-де в Белоруссии такие администраторы А. и Б., недремно бдящие о добром имени государства Российского.

Россия, конечно же, совсем другим величием великая, терпит их. Авось пригодятся. Кто-то же должен в час «икс» вешать Калиновского, гноить в тюрьме Батыршу, усмирять Шамиля, утверждать на местах российскую идеологию с неизменной готовностью получить свою «Медаль за усмирение польского мятежа»...

200 лет мы, белорусы, с ними живем, под ними обретаемся, от них терпим. Нашествие этих чиновников «из центральных губерний» началось в прошлом столетии. Тогда десятки тысяч администраторов хлынули на захваченные земли, чтобы возглавить тут новые военные и цивильные учреждения, школы и церкви.

Орлов про такие вещи не пишет. Щадит детское воображение. Слишком много правды у нас еще бывает. А детям ведь жить, может быть, рядом с их русскими ровесниками. Впрочем, русско-белорусский человеческий контакт у молодежи обычно и возникает на понимании всей правды — и на общем неприятии охранительного бдения родителей. Сколько угодно примеров, когда молодые граждане Беларуси — русские по крови юноши и девушки — выходят на улицы Минска против родительского ОМОНа — за свою родину — Беларусь. Им нужны книги Орлова. Оттуда рождаются их самые светлые чувства, главное из которых — любовь, которой нет и не может быть у отцов-охранителей.

Нет сомнения, что белорусы всегда будут благодарны тем россиянам, которые, приехав к нам, включились в созидательную работу, восприняли язык и внесли немалый вклад в возрождение нашей родины либо действительно спасали наших людей от расстрелов и унижений со стороны оккупантов всех мастей. Но, к великому сожалению, приезжало к нам из России слишком уж много разрушителей, всякого рода геростратов, которые лихо занимали у нас административные должности и самодовольно издевались над нашими святынями, историей, языком, людьми.




Конечно, дело не в национальности. Русский ученый Щекотихин написал свои «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» — научный труд непреходящего значения. А русский архитектор Григорьев, будучи главным архитектором Минска, разрушил здание первой минской оперы, где в середине прошлого столетия ставились произведения Монюшко и Дунина-Марцинкевича. Два противоположных деяния — один построил, другой снес. И таких примеров в нашей истории предостаточно. К сожалению, перевес геростратов абсолютный. Ведь созидатели обычно становились на сторону униженного властями народа, а герostраты — на сторону властей. В конечном итоге дело здесь, видимо, в том, добрый это человек или злой, умный или не очень, порядочный или нет.

Строить нормальные отношения невозможно на фальши и лжи, пусть даже это ложь «во благо», как это кому-то представляется. Если в отношениях остаются какие-то исторические умолчания, они обязательно всплывут самым неожиданным и радикальным образом, как залеченная, но не излеченная болезнь. Представьте себе, что немцы строили бы свои отношения с евреями, не упоминая о том, что уничтожили миллионы их сородичей. Или, что еще хуже, назвали бы этот геноцид внутренним, «семейным» делом немецкого народа (у них ведь тоже похожие, родственные языки — немецкий и идиш) — как уничтожение миллионов белорусов охранители хотят представить внутренним «семейным спором» восточных славян.

### «Семейный спор»

К сожалению, лишь немногие имеют представление об этногенезе, происхождении русской и белорусской наций. Это позволяет корыстливым и нечистым на руку идеологам манипулировать общественным сознанием, говоря о «семейности» существующих между нами проблем.

Что такое вообще национальная специфика представителя той или другой нации? Это, во-первых, кровь (генетическая память), потом — природа, климат, традиции, масштаб страны и образ культуры — все это формирует национальный характер, менталитет человека. Историки — в первую очередь российские, так как местным это не позволялось, — доказали, что в жилах белорусов течет балтская кровь. В этом смысле мы скорее северный народ. Каждый, кто служил в советской армии, замечал различия в поведении представителей разных наций и никогда не перепутает белоруса с русским. Мы разные — и это делает мир более богатым, а не убогим и единообразным.

Наши отношения в истории складывались очень непросто и неоднозначно. Это действительно, если говорить правду, история войн и уничтожений (чего не скажешь, например, о белорусско-литовских взаимоотношениях). Парадоксальность этой истории в стремлении российских завоевателей представить уничтожение наших предков как «внутрисемейное» дело.

Этот историографический фантом родился вместе с Российской империей, которая расширяла свои владения, называя захваченные земли исконно русскими, а народы, их населяющие, — родственными, братскими и т.д.

Еще в 1830 году, отправляя гвардию на наши земли, российский император Николай I изрек замечательную фразу: «Вам придется сражаться с неприятелями, но помните, что они братья».

Через год, в 1831 г. эту мысль подхватил А.С.Пушкин:

*О чем шумите вы, народные витии?*
*Зачем анафемой грозите вы России?*
*Что возмутило вас? волнения Литвы?*
*Оставьте: это спор славян между собою,*
*Домашний, старый спор, уж взвешенный судьбою*
*Вопрос, которого не разрешите вы.*

*Уже давно между собою*
*Враждуют эти племена;*
*Не раз клонилась под грозою*
*То их, то наша сторона.*
.....................
*Оставьте нас: вы не читали*
*Сии кровавые скрижали;*
*Вам непонятна, вам чужда*
*Сия семейная вражда...*

Еще более однозначно высказался о нашем «братстве» в сентябре того же года Федор Тютчев:

*Ты ж, братскою стрелой пронзенный,*
*Судеб свершая приговор,*
*Ты пал, орел одноплеменный,*
*На очистительный костер!*
*Верь слову русского народа:*
*Твой пепл мы свято сбережем,*
*И наша общая свобода,*
*Как феникс, зародится в нем.*

Свобода, выходит, общая, только мы здесь свободны в качестве пепла. Белорусам слишком хорошо знакомо это качество. Хатынь — деревня, сожженная вместе с людьми во время Второй мировой войны, — стала нашим национальным символом. Именно национальным символом, а не символом минувшей войны. Потому что хатыни начались в Беларуси не 50 лет назад. Они равномерно преследуют нас на протяжении всей нашей истории.

Можно начать с сожжения Полоцка Новгородским князем Владимиром, которого школьники знают как «красное солнышко». В российской истории этот Владимир — положительный герой. В нашей — убийца и насильник...

Не буду напоминать о «братских» набегах средневековья, когда в Беларуси погибал, бывало, каждый второй. Возьму пример из прошлого столетия, периода восстания Кастуся Калиновского. После написания цитированных стихов это было следующее крупное восстание против захвата Беларуси Российской империей. Тогда по всей Беларуси российские солдаты производили «зачистки» местности от «бандитов». Наша страна была буквально наводнена «братским» воинством. Вот строки из тогдашнего циркулярного предписания генерал-лейтенанта Бакланова уездным военным начальникам: «Ежели виновность в допущении убийства (русского солда-

# «братский пепл»

та) падет на крестьян, то все селение будет сожжено».

После этого уже следующее поколение великих русских поэтов воспоет славу «братскому пеплу», а охранители потребуют от нас любви к русскому народу и России. Что может быть большим унижением человека и народа, чем требование от него любви с позиций силы!

Что касается символики, то тут претензии Заметалина вполне логичны. Власть Лукашенко — по-своему уникальна. Это попытка ресоветизации, возвращения во вчерашний день. Трудно представить себе, что следом за Лукашенко придет кто-либо похожий на него, с той же ориентацией. Все-таки есть законы развития, эволюции, и они рано или поздно потребуют движения вперед, а не вспять. Поэтому власть Лукашенко — это как бы дань недалекому прошлому, с которым психологически трудно распрощаться. По-своему уникальна и символика этой власти. Ничем не обоснованная, не имеющая давней традиции (ее придумали только в 50-е годы нашего века), да к тому же еще и искаженная символика БССР, конечно же, канет в лету вместе с режимом Лукашенко, уступив место нашим древним и гордым символам — бело-красно-белому флагу и гербу Пагоня. Думаю, это хорошо понимают и сами творцы режима — Лукашенко и Заметалин. Их задача — сохранить власть на какое-то время, потому что их историческое мышление ограничено периодом собственной политической карьеры. После них — будь что будет.

## О корректности

Точнее, о проблеме историографической корректности. Всякому понятно, что в прошлом народы и страны воевали между собой. Сегодня стоит задача все более тесного общежития без умалчивания острых моментов прошлого. Как совместить национальные идеологии стран и народов — в прошлом непримиримых врагов? Эта проблема наилучшим образом решена в тех странах, где наиболее развито историческое знание. Там ведут речь о всенародном покаянии, комплексе вины, подписывают меморандумы о том, что ТАКОЕ никогда больше не повторится. И наоборот — там, где знание умалчивается, а страны-соседки берут из истории лишь то, что нужно для сиюминутных идеологических стереотипов, там и сегодня происходят войны, процветает ненависть. Так или иначе, все начинается с исторического знания — максимально полного и правдивого.

Как рассказать о татарских набегах, не затрагивая при этом чувства современных татар? Проблема в том, что писать о тех древних жестоких татарах позволяется в любых тонах, по крайней мере, всю правду. В то же время межнациональные белорусско-татарские отношения настолько неразвиты, что в корректности формулировок вроде бы и нет необходимости. То же самое можно сказать, например, и о шведах или турках — безжалостных средневековых завоевателях. С немцами — современной сверхдержавой — проблема корректности решена. Мы говорим о жестоких фашистах или о рыцарях-крестоносцах, то есть не о немцах вообще. Что касается русских, то при гиперразвитых межгосударственных отношениях писать, например, правду о завоевательных походах в Беларусь Ивана Грозного или Алексея Михайловича попросту запрещалось и запрещается снова. Но ведь это все БЫЛО. И ничем не обоснованная жестокость, и уничтожение то каждого третьего, то каждого второго белоруса.

Впрочем, В.Орлов достаточно профессиональный историк и литератор, чтобы допускать непродуманные выпады или оскорбления в адрес России или русского народа. Ничего подобного в его книге нет. Орлов ни разу не отождествляет русского человека и русский народ с царизмом или, например, воинством. Другое дело, что он не считает нужным специально оговариваться: только ж не подумайте, мол, что порядки в государстве Российском были заведены самим русским народом...

Более того, автор не пропускает фактов единения двух народов, описывая совместные усилия предков современных белорусов и россиян на Чудском озере или на Куликовом поле. В последнем случае В.Бабосов также возводит на В.Орлова напраслину, упрекая решающим значением белорусских полков в Куликовской битве. Вот что у Орлова:

*«Вы, магчыма, ужо чулі пра Кулікоўскую бітву, дзе рускія воіны перамаглі хана Мамая... На шостай гадзіне бітвы частка рускіх не вытрымала і паказала татарам спіну. Хан Мамай ужо з задавальненьнем паціраў рукі, аднак правае крыло разам з палачанамі стаяла насмерць і не адступіла. А потым у бітву ўступіў засадны полк, і татары пабеглі».*

Разве здесь что-то говорится о решающей роли белорусских полков?

То же самое — Грюнвальд. У Орлова: *«Вялікую мужнасць паказалі на Грунвальдскім полі палачане і віленцы... Стаялі насмерць і польскія палкі. Адважна біліся на баку Вітаўта і Ягайлы таксама ўкраінскія, татарскія, чэшскія і малдаўскія дружыны».*

Здесь, пожалуй, целый интернационал.

Что касается «весьма спорной характеристики Великого княжества Литовского как исключительно белорусского государства», то также нигде в книге такой «исключительности» нет. Зато в экспертном заключении есть откровенное стремление вновь умолчать факт белорусской государственности до 17-го года. Казалось бы: зачем это нужно в независимой Беларуси — урезать и замалчивать историю величия собственного народа? Ведь нелогично. Ответ возвращает нас к личностям идеологов теперешней Беларуси. Это не белорусские идеологи.

Конечно, никакая историография — не аксиома. Всегда остается место для сомнений, допусков и полемики. История — живая наука. Но вступать в полемику с людьми, ставящими целью идеологическое охранительство исторических стереотипов другого государства, нет смысла. Ведь их интересуют не факты белорусско-российских средневековых войн и их интерпретация, а именно умолчание этих фактов.

Тем не менее эти войны были. Вот описание только одной из них: *«Вайна з Расейскай дзяржавай доўжылася трынаццаць гадоў — з 1654-га да 1667-га. Гэта была самая страшная і крывавая вайна за ўсю гісторыю Беларусі. Бітвы, голад і хваробы скарацілі насельніцтва нашай Бацькаўшчыны ў два разы. Загінуў кожны другі, а на ўсходзе Бларусі — кожныя восемдзесят чалавек з сотні. Напрыклад, у Полацку перад вайною было болей за 1500 дамоў, а засталося толькі сто, у Віцебску з 982 дамоў у попел і руіны ператварыліся 926. Захопнікі вынішчылі пад корань цэлыя беларускія роды».*

Что, скажите, с этим делать, если это БЫЛО? Глупый вопрос, не правда ли? Кстати, упомянутой войне посвящена целая книга другого профессионального историка Генадя Сагановича с символическим названием «Невядомая война». Книга вышла до Заметалина, и ее еще можно купить в магазинах.

Единственная цитата из Орлова, которую приводит Бабосов в своем заключении, связана с рассказом о Петре I, который во время Северной войны в Полоцке вместе со своими солдатами вошел в Софийский собор и убил там пятерых безоружных монахов. Тела убитых Петр приказал сжечь, а пепел развеять, дабы над их могилами не могли собираться люди. Это циничное убийство получило огласку. Далее — Орлов:

*«Каб спыніць непажаданыя размовы, цар выдаў адмысловы загад. Там гаварылася, што гэта самі полацкія святары напалі ў Сафійскім саборы на гасцей і тыя, каб абараніцца, мусілі іх забіць. У Расейскай дзяржаве заўсёды ўмелі з чорнага рабіць белае».*

Возможно, господину Бабосову такое обобщение показалось неуместным. Но что делать с этой бесконечной чередой убийств и надругательств «во благо», с «семейным спором» и «братским пеплом»? Что делать... Кстати, после убийства монахов Петр разрушил и сам Софийский собор.

## Ценное приобретение

О сдержанности и объективности оценок Орлова свидетельствует и следующее обобщение. Замечу, что захват Беларуси Российской империей в конце XVIII века до сих пор не получил в белорусской историографии своей стереотипной формулировки. В.Орлов объясняет эту ситуацию детям:

*«Доўгі час у нашых школьных падручніках і ў іншых кніжках па гісторыі гаварылася, нібыта беларусы на працягу стагоддзяў імкнуліся ўзьяднацца з братнім расейскім народам і жыць з ім у адной дзяржаве.*

*Гэта няпраўда.*

*Беларусы паважалі суседні народ* (! — **С.Д.**), *дапамагалі тым, хто перасяляўся з Масковіі ў Вялікае княства Літоўскае, але жыць пад уладаю расейскіх цароў нашы продкі ніколі не хацелі. Яны вельмі добра памяталі, як забіваў і гнаў у няволю палачанаў цар Іван Жахлівы. Памяталі, як праз сто гадоў пасля гэтага расейскія ваяводы загадалі перарэзаць усіх жыхароў беларускага горада Мсціслава. Народ не мог забыць, як царскія захопнікі ў розныя стагоддзі рабавалі і выпальвалі нашу зямлю, як прадавалі палонных у рабства туркам і персам. Назаўсёды засталося ў памяці беларусаў і тое, што салдаты цара Пятра І ўзарвалі галоўны храм нашай зямлі — полацкі Сафійскі сабор».*

Это обобщение. Далее автор приводит факты, характеризующие два соседних государства, и мы понимаем, что обобщение В.Орлова обоснованно. Дабы не быть голословным и учитывая запрещение книги, а также убедительность этих характеристик, позволю себе еще две цитаты:

*«Весткі, што даходзілі да Беларусі з суседняй дзяржавы, ніякай ахвоты «ўзьядноўвацца» таксама не выклікалі. Дачка Пятра І імператрыца Лізавета загадала вырываць язык кожнаму, хто скажа пра яе непачцівае слова. А хваліць царыцу не было за што. Вакол самой Масквы лютавалі разбойнікі. У краіне не хапала солі, але вельмі часта простыя людзі не мелі чаго і пасаліць, бо і хлеба было, як кажуць, на адзічык.*

*У расейскім войску панавала палачная дысцыпліна. За якую-небудзь дробную правіну салдат мог атрымаць дзве-тры тысячы ўдараў палкай і памерці на месцы.*

*Расейскія ўлады вялі сапраўдную вайну са староверамі — людзьмі, якія хацелі захаваць у праваслаўных цэрквах старыя малітоўныя кнігі і абрады. Старавераў палілі, выкопвалі з магілаў і кідалі сабакам.*

*Памешчыкі ў Расеі мелі бязмежную ўладу над сваімі сялянамі. Сялянаў называлі рабамі. Іх і іхніх дзяцей было забаронена вучыць грамаце. Гаспадары мелі права ссылаць іх у Сібір, засякаць бізунамі да смерці, прадаваць, назаўсёды разлучаючы мужа з жонкаю, маці з дзецьмі. Пецярбургскія і маскоўскія газеты друкавалі аб'явы аб продажы, дзе людзі стаялі ў адным пераліку з пародзістымі сабакамі.*

*Ад царскага беззаконня, ад голаду і здзекаў у Вялікае княства Літоўскае штогод уцякалі тысячы людзей. Цэлымі вёскамі на беларускія землі перасяляліся стараверы. У сярэдзіне XVIII стагоддзя расейскі ўрад патрабаваў ад Рэчы Паспалітай вярнуць мільён уцекачоў».*

*«Законы аб'яднанай дзяржавы Рэчы Паспалітай, куды, як мы памятаем, уваходзілі Польшча і Вялікае княства Літоўскае, давалі чалавеку значна больш правоў і свабоды, чым у Расеі. Аднак правы гэтыя мелі пераважна паны — шляхта. Праўда, шляхты ў Вялікім княстве было шмат. На шэсць-сем сялянаў прыпадаў адзін шляхціц. Многія з такіх «паноў» адрозніваліся ад сялянаў толькі тым, што насілі шаблю і ганарыліся сваім гербам. Тым не менш гэта былі незалежныя людзі, якія вырашалі мясцовыя і агульнадзяржаўныя справы, засядаючы на соймах. Соймам называўся зьезд шляхецкіх дэпутатаў.*

*У нашай дзяржаве, як і раней, мірна жылі побач людзі рознай веры. Тут па-ранейшаму дзейнічаў Статут Вялікага княства Літоўскага, пра які ў нас ужо ішла падрабязная гаворка».*

Словом, для желания добровольно «интегрироваться» у тогдашних белорусов не было никаких оснований. Поэтому «интеграция» произошла «в принудительном порядке», что вызвало в Беларуси три крупнейших антироссийских восстания.

Книга заканчивается последним таким восстанием, которым руководил Кастусь Калиновский. Именно после этого восстания многотысячными потоками хлынула в Беларусь волна чиновников-администраторов. Эти потоки не остановила в последующем ни Октябрьская революция, ни Вторая мировая война, ни послевоенные годы. Наоборот, каждый раз находился повод для нового массового «братского» прилива администрации — то советской, то «на помощь» после войны, то постсоветской. Приезжали, конечно, и серьезные ученые, и деятели культуры, и простые работяги, которые становились частью нашего народа, уважая его традиции и устремления. Наш разговор не о них. Речь об идеологической администрации.

Последней волной такого приезда из России и отмечен период правления Лукашенко. Типичный представитель этого потока — господин Заметалин, карьера которого не отмечена созидательным деянием — запрещает сегодня белорусские издания.

Возрождается та система уничтожения книг, которая существовала при Сталине или Гитлере в 30-е годы. Сначала автора клеймят в прессе, потом книгу запрещают, потом запрещенные книги сжигают на костре...

Впрочем, обнадеживает то, что эта ретроспективная власть — не вечна. Слишком невечна, чтобы горевать о запрещенной ею книге. Лучше поздравим Владимира Орлова с его очередной авторской удачей, а всю нашу культуру с новым полезным приобретением. Написанное — остается.

# Свет учора і сёння

## Еўропа: візавы рэжым

**АЎСТРЫЯ І ІТАЛІЯ АБВЯСЦІЛІ**, што далучающца да Шэнгенскай дамовы аб адзіным візавым рэжыме. Як паведамілі ў пасольстве Італіі ў Мінску, гэта азначае, што з 27 кастрычніка 1997 года кожны грамадзянін Беларусі, які атрымае ў Мінску шэнгенскую візу ў амбасадах Італіі, Францыі або Германіі (іншыя дыпламатычныя прадстаўніцтвы краін-удзельніц Шэнгенскага пагаднення пакуль не маюць у Беларусі візавых службаў) зможа падарожнічаць і па тэрыторыі Італьянскай Рэспублікі. У Аўстрыі новы візавы парадак пачне дзейнічаць з 1 снежня.

Такім чынам, удзельнікамі Шэнгенскай дамовы з'яўляюцца 7 краін — Германія, Францыя, Бельгія, Нідэрланды, Люксембург і Італія, Аўстрыя.

## Албанія



**ПАДАЎ У АДСТАЎКУ** з паста прэзідэнта Салі Берыша *(на здымку)* пасля паразы ягонай Дэмакратычнай партыі на выбарах у парламент і перамогі сацыялістаў (экс-камуністаў). Цяперашняя новая апазіцыя (дэмакраты) байкатавала першае паседжанне заканадаўчага органа, бо, як яны лічаць, сацыялісты перамаглі таму, што запалохвалі людзей. 6-тысячны кантынгент міратворчых сілаў пакідае Албанію.

## Югаславія

**ПРЭЗІДЭНТ СЕРБІІ СЛАБАДАН МІЛОШАВІЧ** абраны прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі, у склад якой уваходзяць Сербія і Чарнагорыя. За яго прагаласаваў саюзны парламент (Скупшчына), дзе большасць маюць сербскія сацыялісты і іх хаўруснікі з Чарнагорыі. Прэзідэнцкія выбары ў Сербіі адбудуцца 21 верасня бягучага года. Паводле закона Мілошавіч не мае правуа балатавацца на пасаду прэзідэнта Сербіі ў трэці раз.



## Паўночная Ірландыя

**ІРЛАНДСКАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ АРМІЯ** *(IRA)* прыпыніла сваю тэрарыстычную дзейнасць і возьме ўдзел у шматпартыйных перамовах. Прэм'ер-міністр Велікабрытаніі Блэр пацвердзіў, што партыя Шын Фэйн — палітычнага крыла *IRA* — будзе запрошаная на маючыя адбыцца перамовы па ўрэгуляванні канфлікту паміж каталікамі, якія за далучэнне Ольстэра да Ірландыі, і пратэстантамі, што складаюць большасць у гэтай частцы Брытанскага каралеўства і скептычна ставяцца да ініцыятывы *IRA*, бо, як яны сцвярджаюць, ірландскія нацыяналісты ўжо парушалі дамову аб перамір'і, падпісаную ў 1994 г. *На здымку: лідэр Шын Фэйн Джэры Адамс.*

## Афганістан

**ВОЙСКІ АНТЫТАЛІБСКАЙ КААЛІЦЫІ** пасля шэрагу перамогаў падыйшлі да сталіцы краіны Кабула на адлегласць 25 км. Чакаецца штурм горада. Міжнародныя гуманітарныя арганізацыі, улучаючы прадстаўніцтва ААН і Чырвонага Крыжа, часова спынілі транспартыроўку грузаў з-за бамбардзіроўкі аэрапорта самалётамі антыталібскай кааліцыі.

## Боснія і Герцагавіна

**ГЭТАЯ КРАІНА** можа атрымаць фінансавую дапамогу больш за 1 мільярд долараў, калі будзе выконваць Дэйтанскія пагадненні. Гэтае рашэнне было прынята на паседжанні ў Бруселі, у якім удзельнічалі 48 краін і 30 міжнародных арганізацыяў. У прыватнасці, Боснія павінна прадаставіць Міжнароднаму суду ў Гаазе ваенных злачынцаў, якія абвінавачваюцца ў масавых забойствах падчас вайны на Балканах.

## Польшча



**НЕКАТОРЫЯ ПАРТЫІ** звярнуліся да прэзідэнта Квасьнеўскага з прапановай адкласці парламенцкія выбары, што маюць адбыцца 25 верасня гэтага года з прычыны паводкі, у выніку якой загінулі дзесяткі людзей і нанесены каласальны ўрон. Аляксандр Квасьнеўскі не прыняў гэтую прапанову.

## ЗША

**ЦЭНТРАЛЬНАЕ РАЗВЕДВАЛЬНАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ** *(CIA)* адзначае 26 ліпеня 50-гадоў сваёй дзейнасці. ЦРУ было створанае ў 1947 г. на загад прэзідэнта Гары Трумэна. У 1949 г. ЦРУ, паводле Акту аб Цэнтральнай разведвальнай дзейнасці, атрымала права не даваць каму б там ні было справаздачу аб сваім фінансаванні, памерах і супрацоўніках. У 1977 г. прэзідэнт Картэр увёў абмежаванні на тайныя аперацыі *CIA*.

## Японія — Карэя

**СУД ПРЫЗНАЎ** карэйскую авіякампанію *KAL* вінаватай у гібелі пасажыраў рэйсавага лайнера «Боінг-747», які быў збіты савецкім знішчальнікам над Японскім морам 1 верасня 1983 года. Авіякампанія павінна цяпер выплаціць сем'ям палеглых кампенсацыю ў памеры 130 мільёнаў іен.

